

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднойлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская



№ 3 (136). 13 — 19 студзеня 2000г. • Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. • Кошт 50(50.000) руб.

НАВІНЫ

## Юбілей Слонімскага раёна

**У суботу, 15 студзеня, у раённым доме культуры адбудзецца ўрачыстасць, прысвечаная 60-годдзю Слонімскага раёна.**

Напомнім, што Слонімскі раён быў утвораны пры савецкай уладзе ў 1940 годзе і тады ўваходзіў у Баранавіцкую вобласць. У праграме – святочны канцэрт, які пройдзе з удзелам хора ветэранаў, ансамбля песні "Рабінушка", тэатра эстрадна-спартыўнага танца "Каскад", аркестра народных інструментаў і іншых выканаўцаў.

Святочнае мерапрыемства пачнецца ў 15.00.

Сяргей ЁРШ

## Чарговае падаражанне нафтапрадуктаў

**З 4 студзеня ў Беларусі зноў падаражэлі гаруча-змазачныя матэрыялы.**

Пра гэта карэспандэнту "ГС" паведаміў дырэктар Слонімскай нафтабазы Міхаіл Салавей. Ён сказаў, што па новых цэнах 1 літр 76-га бензіну каштуе 200 рублёў, 92-га – 280 руб., 95-га – 330 руб., дызпаліва (летняе) – 190 руб. за літр, дызпаліва (зімняе) – 193 руб., керасін – 100 руб.

Нагадаем, што апошняе падаражанне нафтапрадуктаў адбылося 20 лістапада мінулага года.

## Разводзімся і паміраем

**За 1999 год у Слоніме памерла 567 чалавек, а нарадзілася толькі 505.**

У шлюб уступіла 416 слонімцаў, з іх 209 развяліся. Вось такую статыстыку карэспандэнту "ГС" назвала загадчыца Слонімскага ЗАГСа Таццяна Астапчык.

Сяргей ЧЫГРЫН

## Халадзільнік ад райвыканкама

**Як ужо пісала "ГС", у слонімскім радзільным аддзяленні першым у новым годзе нарадзіўся сын жыхаркі вёскі Дзераўная Наталлі Траскевіч. На мінулым тыдні сям'я Траскевічаў была ўзнагароджана райвыканкамам.**

Па словах старшыні раённага выканаўчага камітэта Станіслава Здановіча, сям'я працаўнікоў калгаса "Уперад" атрымала халадзільнік. Так было адзначана нараджэнне першага слонімца 2000 года.

Сяргей ЁРШ

## Улады змагаюцца з п'янствам сярод вучняў

**Камісія па справах непаўналетніх пры Слонімскім райвыканкаме, якой кіруе Аляксандр Тарсуноў, прыняла пастанову "Аб стане і мерах па ўзмацненню барацьбы з п'янствам вучняў школ".**

У прыватнасці, у гэтым дакуменце адзначаецца, што на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх стаіць 11 слонімскіх падлеткаў, якія злоўжываюць алкаголем. Камісія па справах непаўналетніх райвыканкама правяла работу больш як з 30-цю бацькамі, якія адмоўна ўплываюць на сваіх дзяцей. З 64 падлеткаў, якія ўчынілі правапарушэнні, 46 вучыліся ў школе.

Аляксей ЯКІМОВІЧ

## Сто лет Гродненской епархии

**В Гродно прошли торжества, посвященные 100-летию Гродненской епархии.**

По этому случаю в Свято-Покровском кафедральном соборе прошли всенощное бдение и божественная литургия. Ее отслужили митрополит Минский и Слуцкий, Патриарший экзарх всея Беларуси Филарет в сослужении правящего архиерея Гродненской епархии, епископа Гродненского и Волковысского Артемия и других иерархов православных церквей Беларуси и Польши. После литургии состоялся торжественный акт и концерт православных песнопений хоров церквей Гродно.

Отметим, что при Гродненском епархиальном управлении создается дьяконическая станция. Она будет координировать и упорядочивать деятельность создаваемых и действующих при православных приходах сестричеств и братств по оказанию помощи нуждающимся в опеке людям. Как и прежде, сестры и братья будут посещать тяжелобольных, помогать духовно и физически престарелым, немощным, инвалидам, одиноким, исполнять роль своеобразных патронажных сестер. А дьяконическая станция будет стремиться сделать помощь более целенаправленной и адресной.

Ася КУНИЦКАЯ

ЗДАРЭННІ

## Свінню ў мяху не ўтоіш

**На свінагадоўчай ферме вёскі Ганькі калгаса "Перамога" Слонімскага раёна быў затрыманы 60-гадовы палявод гэтай гаспадаркі.**

Мяркуючы што на ферме нікога няма, ён засунуў у мех 40-кілаграмовага падсвінка і хацеў знікнуць, але яго злавілі даглядчыкі жывёлы.

## Прыязджала ў Слонім красці

**У жыхаркі Слоніма Д. з вуліцы Мічурына нехта ўкраў хатнія рэчы на суму 1400 рублёў.**

Днямі міліцыя затрымала злодзея. Ім аказалася раней судзімая 47-гадовая жыхарка Л. з вёскі Савічы Слонімскага раёна.

## Непаўналетнія злачынцы

**Днямі жыхарка Слоніма К. з вуліцы Сінічкіна паскардзілася ў міліцыю, што з яе дома зніклі ювелірныя вырабы, 7 тысяч рублёў і прадукты харчавання.**

Хутка супрацоўнікі крымінальнага вышуку затрымалі дваіх непаўналетніх, раней судзімых В. і Р., якія прызналіся, што яны і ўчынілі крадзёж.

## Акурак нарабіў бяды

**Ноччу, 10 студзеня, пажарныя атрымалі паведамленне, што ў доме № 17 на Баранавіцкай вуліцы ў Слоніме ўзнік пажар.**

Агнём часткова пашкоджаны будынак і хатняя маёмасць. Высветлілася, што загаранне ўзнікла ад акурка, кінутага на падлогу адным з удзельнікаў сямейнага застолля.

## Разбойны напад у "Заазёрным"

**Вечарам, 9 студзеня, у Слоніме на тэрыторыі гаражнага кааператыва "Заазёрны" двое невядомых спрабавалі ўгнаць аўтамабіль "Аўдзі-80". Калі ўладальнік іншамаркі, убачыўшы гэта, стаў перашкаджаць наўмысніка, тыя яго моцна збілі і зачынілі ў гаражы.**

Пасля некалькіх няўдалых спробаў запусціць рухавік легкавушкі, злачынцы збеглі.

Узбуджана крымінальная справа. Міліцыя шукае ўдзельнікаў разбойнага дуэта.

ПРАБЛЕМА

## Пазбаўлена прэміяльнай даплаты

**Нядаўна рэдакцыю "ГС" наведала сланімчанка Тамара Мацвееўна Косінава, якая жыве на вуліцы Чарняхоўскага. Вось што яна расказала.**

– 21 снежня 1999 года суседка перадала мне атрыманую ад паштальёна каштоўную бандэроль з Аўстраліі. Пакет быў распячатаны. Калі я праверыла па апісанню атрыманыя рэчы, то выявіла, што там няма царкоўнага каляндара. Таму была вымушана са скаргай звярнуцца ў раённы вузел сувязі.

Начальнік вузла сувязі Яўгенія Руткоўская паабяцала ва ўсім разабрацца...

І сапраўды, Тамара Мацвееўна атрымала адказ на сваю скаргу. У прыватнасці, Яўгенія Руткоўская паведаміла, што за невыкананне службовай інструкцыі па дастаўцы паштовых адпраўленняў паштальён Салавей Н.С. пазбаўлена прэміяльнай даплаты за снежань 1999 года на 100%. Акрамя таго, будзе вырашацца пытанне аб далейшай працы Салавей на пасадзе паштальёна.

Валянцін ЧУРЫЛА

# МАСТОЎСКІ БАЛАСТ

Былы Мастоўскі раённы дом культуры, што побач з аўтастанцыяй, быў пабудаваны ў першай палове пяцідзесятых гадоў. На працягу амаль чатырох дзесяцігоддзяў ён з'яўляўся асяродкам культурнага жыцця горада і раёна. У пачатку 90-х гадоў быў узведзены новы будынак дома культуры, а стары ператварыўся ў галаўны боль мясцовых уладаў. Некаторы час там праводзіліся дыскатэкі, а потым увогуле пра яго забыліся. Пабудова засталася баластам гарадскога бюджэту.

Дзесьці ў 1996 годзе ўлады вырашылі прадаць яго з аўкцыёна. Гэта быў першы і апошні аўкцыён па продажу камунальнай маёмасці ў Мастах. Закончыўся ён безвынікова. Стартавая цана складала паўмільярда рублёў на той час. Тады будынак яшчэ быў добротны, і знаходзіўся ён у прывабным месцы. Але ўлады выставілі непрымальныя для ўдзельнікаў конкурсу ўмовы. Сярод іншых было патрабаванне, каб быў адзін уладальнік будынка, хоць па частках яго шмат хто хацеў набыць.

На працягу апошніх трох гадоў закінутае збудаванне літаральна разбураецца на вачах. Зараз улады маюць на мэце яго адрамантаваць ды размясціць там экспазіцыю музея "Лес і чалавек", а таксама аддзел культуры райвыканкама. Праўда, для гэтага патрэбны вялікія грошы. Праблема ў тым, дзе іх узяць?..

Язэп ПАЛУБЯТКА



НАВІНЫ

## Нас перапісалі. Якія вынікі?

**Па выніках перапісу, які прайшоў у сярэдзіне лютага мінулага года, на тэрыторыі нашай вобласці пражывае 1 мільён 185,2 тысячы чалавек.**

За 1989 – 1998 гады на Гродзеншчыне памерла 153,5 тысячы чалавек, а нарадзілася толькі 141,6 тысячы. Выявілена 78 вёсак і хутароў, у якіх зусім не жывуць людзі.

За перыяд з 1959 па 1999 гады значна павялічылася гарадское насельніцтва. Напрыклад, у Слоніме яно вырасла ў 2,6 раза.

Варта таксама адзначыць, што на тэрыторыі Гродзенскай вобласці сёння пражываюць людзі 87 нацыянальнасцей. Больш за ўсё беларусаў – 62,3%, палякаў – 24,8 %, рускіх – 10,1%, украінцаў – 1,8%.

Беларускую мову назвалі роднай 72,6% апытаных, што на 4,5% больш, чым у мінулы перапіс. Адзначана, што на беларускай мове сёння ў вобласці размаўляюць дома 635,7 тысячы чалавек.

Міхась АКУЛКА

## Курс доллара преодолел отметку один миллион

**После новогодних и рождественских праздников на внебиржевом валютном рынке начался рост курса доллара США по отношению к безналичному белорусскому рублю.**

Если на прошлой неделе котировки варьировались в пределах 920.000-960.000 неденоминированных рублей, то утром в понедельник, 10 января, курс вырос до 1.000.000-1.050.000, а к вечеру - до 1.020.000-1.070.000 рублей.

Основной причиной роста котировок дилеры коммерческих банков называют большое количество белорусских рублей, скопившихся на счетах субъектов хозяйствования в связи с перерывом в работе внебиржевого рынка. По их мнению, в ближайшие дни повышение котировок продолжится, и доллар США может подорожать до 1.100.000-1.200.000 рублей.

Заметный рост курса доллара США зафиксирован и на "черном" рынке наличной валюты. За последние четыре дня (с 6 по 10 января) курс покупки увеличился с 820.000-825.000 до 850.000-860.000, продажи - с 835.000-840.000 до 875.000-880.000 неденоминированных рублей.

БелаПАН

# ВЫ ИЩЕТЕ РАБОТУ?

## Чтобы не плакали ваши денежки

Вы по каким-то причинам потеряли работу. В поисках новой человек обращается к газетным объявлениям, например, к таким как: "Подскажу прекрасный способ зарабатывать на жизнь" или "Приглашаю здравомыслящих людей с высшим и средним образованием, занятых поиском работы". Если внимательно их сравнить, то большая часть подобных объявлений уж очень похожи друг на друга. Кто же эти спасители и благодетели? Оказывается, это простые мошенники. Их капитал — мы с вами. Им все равно, что предлагать нам за наши же деньги: бесполезные лекарства, ни от чего не страхующие полисы, путевки на несуществующие курорты или изготовление керамической плитки.

По правилам комбинаторов, чтобы оставаться в рамках относительно честного промысла, недопустимо долго и много доить одного и того же обладателя денег. Надо, чтобы человек не почувствовал себя обманутым до такой степени, чтобы пойти в милицию. Значит, желающих отдать деньги должно быть много. Каждого немного обдурил — и сыт, и пьян.

Итак, вы желаете устроиться на работу и, конечно, рассчитываете заработать. Но вам предлагают самому отдать деньги (вступительный взнос, оплата за обучение, оплата за оформление документов, страховой взнос, залог за товар или сырье и т.п.) и навязывают сделку. Желаете ее совершить — пожалуйста. Только помните — заработать хотите вы. Не исключено, что в поисках работы вас привлечет объявление следующего содержания: "Фирме требуются рабочие на нефтяных промыслах Швеции, Норвегии и стран ближнего Востока. Зарплата до 500 долларов в месяц". Позвонив по указанному телефону, вы услышите увлекательный рассказ о том, в каких благоприятных условиях вы будете работать и много зарабатывать. От такого стремительного обогащения вас отделяет один маленький шаг. Чтобы стать работником данной фирмы, нужно выслать денежный перевод в сумме 15 миллионов рублей в одно из отделений связи, например, города Барановичи на предъявителя паспорта указанной серии и номера. На мой вопрос, для чего высылать деньги, последовал ответ: "Они нужны, чтобы оформить документы для выезда за границу".

Обратите внимание на то обстоятельство, что деньги надлежит выслать не конкретному человеку, а на абонентский адрес предъявителю паспорта...

Далее, я спросил у телефонного собеседника адрес названной фирмы в Барановичах и, спустя секунд десять, мне его назвали. Через несколько дней мой знакомый Владимир Иванович сообщил, что тщетно пытался найти по указанному адресу в Барановичах "нефтяную фирму". По такому адресу находится частный дом, в котором проживают пенсионеры, понятия не имеющие ни о какой "фирме". Если вы серьезно заинтересовались фирмой, поинтересуйтесь наличием лицензии на право деятельности у ее представителя. Случается, что безработным предлагают подзаработать на домашнем телефоне. И здесь вас поджидает очередной мошенник. Обратившись по объявлению, в котором предлагалась работа на дому, моя знакомая узнала, что она будет страховым агентом и должна по телефону находить желающих застраховаться и сообщать о них своему будущему менеджеру. А потом объявили условия поступления на работу — надо застраховаться самой. Сумма страховки — 2 миллиона рублей. Потом женщине предложили в поисках новых клиентов развесить объявления и самой предлагать застраховаться новым соискателям работы.

Возможно, у вас вымanят не такие уж и большие деньги, чтобы жаловаться в милицию. Вопрос в другом — этого ли вы хотели?

**Валентин ЧУРИЛО**

## БЮДЖЕТНИКАМ ОПРЕДЕЛИЛИ ПРИБАВКУ К ЗАРПЛАТЕ

**Вступил в силу указ президента Беларуси "О мерах по совершенствованию условий оплаты труда работников организаций, финансируемых из бюджета".**

Согласно этого документа, с 1 января 2000 года, руководителям организаций, финансируемых из бюджета (за исключением государственных органов), предоставлено право устанавливать руководителям, специалистам и служащим надбавки в размере до 50 процентов должностного оклада (ставки) за высокие творческие достижения в работе, сложность и напряженность труда, а также за выполнение особо важных (срочных) работ. На эти цели направляются выделенные из бюджета средства в размере 10 процентов планового фонда заработной платы работников организации. На премирование работников указанных категорий выделяются бюджетные средства в размере 20 процентов планового фонда заработной платы.

Кроме того, согласно указу, ежегодно, начиная с 2000 года, научным работникам, лицам из числа профессорско-преподавательского состава и врачам системы Министерства здравоохранения устанавливаются — "за выдающийся вклад в практическую деятельность по охране здоровья населения республики" — персональные надбавки в размере 30 тарифных ставок первого разряда сроком на один год. К указу прилагается порядок установления и выплаты персональных надбавок данным категориям работников системы Минздрава.

Театрально-зрелищным организациям предоставлено право устанавливать свободные цены на билеты в пределах 75 процентов от общего количества мест в зрительном зале. Цены билетов на остальные места сохраняются на уровне, установленном Министерством культуры. Полученные от реализации билетов дополнительные финансовые средства направляются в фонд накопления и потребления театрально-зрелищных организаций.

**БелаПАН**

## А так хочацца верыць

**Не ведаю каму як, а мне так хочацца верыць абяцанням гарадскіх уладаў, а яшчэ больш хочацца ўбачыць зробленае.**

Другі год запар слонімскі гарвыканкам пераконвае гараджан, што па многіх вытворчых паказчыках і ўмовах жыцця мы амаль дасягнулі ўзроўню 1990 года. Але пераважная большасць людзей жыве ў некалькі разоў бядней, чым 10 гадоў таму. Многія з іх ужо не спадзяюцца памацаць у сваёй кішэні той славуты ўзровень 1990 года.

Так і начальнік водаканала Васіль Шкодаў пераконвае слонімцаў, што калектыў яго прадпрыемства прыме максімум намаганняў, каб вырашыць праблему водазабеспячэння горада.

Асабіста я веру, што спадар Шкодаў стараецца. Дапускаю нават, што заработная плата — не галоўны стымул у яго працы. Але ж прабачце: ужо колькі гадоў запар з кранаў перыядычна цячэ іржавая вада. Здавалася б, колькі ўжо можна абяцаць, што сітуацыя будзе выпраўлена, спасылацца на розныя прычыны?.. Праходзіць час, а ўсё застаецца па-ранейшаму. А можа тут справа не ў прычынах, а ў кіраўніку?

**Міхась ВАРАНЕЦ**




Фота IREX/ProMedia

# КАЛІ ВАШЫ ПРАВЫ ПАРУШАНЫ...

**Дзейнасці па абароне грамадзянскіх правоў і свабод сённяшнія ўлады надаюць палітычную афарбоўку і ўспрымаюць як актыўную палітычную дзейнасць.**

Але хіба гэта палітыка, калі чалавек патрабуе своечасовай выплаты свайго заробку. Калі вас звальняюць з працы толькі за тое, што вы выказалі праўду пра свайго начальніка? Калі чыноўнік без прычыны адмаўляе ў інфармацыі, якой вы маеце права валодаць? І гэта ў той час, калі вашы правы і свабоды рэгламентаваны Канстытуцыяй РБ? На вялікі жаль, беларусы прызвычаіліся да свайго бяспраўнага становішча, а з такімі людзьмі можна рабіць што хочаш. Асабліва неабароненымі адчуваюць сябе жыхары правінцый. Цяжкае матэрыяльнае становішча, высокі кошт юрыдычных паслуг пазбаўляюць грамадзян юрыдычнай дапамогі.

Каб неяк выправіць сітуацыю адносна правоў чалавека, якая склалася ў Беларусі, пры фінансавай падтрымцы фонда "Еўразія" быў створаны інфармацыйна-праваабарончы цэнтр. Мэтай дзейнасці якога стала практычная дапамога людзям у адстойванні сваіх правоў, распаўсюджванне прававых ведаў, падрыхтоўка грамадскіх лідэраў, здольных праводзіць асветніцкую і праваабарончую дзейнасць у рэгіёнах.

Сфера дзейнасці цэнтра ахоплівае паўднёвыя раёны Гродзенскай вобласці — Слонімскі, Мастоўскі, Дзятлаўскі, Ваўкавыскі, Свіслацкі. Цяпер у Слоніме і Ваўкавыску працуюць праваабарончыя прыёмныя, дзе дасведчаныя юрысты аказваюць практычную і экспертную дапамогу наведвальнікам у галіне грамадзянскіх правоў. Важна яшчэ і тое, што паслугі аказваюцца бясплатна. Маем факты, калі чалавек, абышоўшы шэраг дзяржаўных устаноў, страціў надзею на аб'ектыўнае рашэнне сваёй справы. Вось такія людзі, у асноўным, і накіроўваюцца ў наш праваабарончы цэнтр. На прыёмах юрысты дапамагаюць прававым шляхам знайсці рашэнне праблемы.

Наведвальнікі праваабарончых прыёмных атрымліваюць не толькі прававыя кансультацыі, але ім дапамагаюць скласці заяву аб правапарушэннях, звароты ў адпаведныя інстанцыі. Цэнтрам праводзіцца і асветніцкая работа сярод насельніцтва рэгіёна.

Калі вы лічыце, што вашы правы парушаны, можаце звярнуцца ў грамадскія праваабарончыя прыёмныя па адрасах: Слонім, вул. Міцкевіча, 20, тэл. 2-38-17 альбо Ваўкавыск, вул. Савецкая, 34, тэл. 2-76-89.

**Мікалай КАВАЛЬЧУК, кіраўнік рэгіянальнага інфармацыйна-праваабарончага цэнтра**

## НОВЫЙ ТРУДОВОЙ КОДЕКС РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

(Начало в №49, 52 за 1999г.)

Новым в трудовом кодексе является и то, что законодатель предусмотрел дополнительные поощрительные отпуска (ст. 160), которые могут устанавливаться за счет собственных средств нанимателя коллективным договором (соглашением между нанимателем и всеми работниками) отдельным их категориям или персонально для того или иного работника в соответствии с трудовым договором.

Новым также в трудовом кодексе (и, на мой взгляд, ухудшающим положение работников) является то, что наниматель имеет право досрочно предоставить трудовой отпуск всем или отдельным категориям работников в случае неожиданной приостановки работы в связи с аварией, стихийным бедствием, необеспеченностью энергоресурсами, сырьем и по другим исключительным причинам, по заранее не предвиденным обстоятельствам (ст.172 ТК). Если же указанный трудовой отпуск предоставлен с соблюдением установленного порядка (наниматель обоснованно отправляет работников в трудовой отпуск), но работник отказывается использовать этот отпуск без законных оснований, наниматель вправе отказать работнику в переносе отпуска и не выплачивать ему денежную компенсацию за неиспользованный отпуск, т.е. работник теряет право на ежегодный трудовой отпуск. Указанный отпуск будет компенсирован только при увольнении работника (ст. 173, 179 ТК).

Новый трудовой кодекс предоставил нанимателю право (ст. 191) при необходимости временной приостановки работ или временного уменьшения их объемов с целью предотвращения увольнения работников по сокращению численности или штата с согласия работника (работников) предоставить отпуск без сохранения или с частичным сохранением заработной платы, если иное не предусмотрено коллективным договором или соглашением. В данном случае — неоценима роль трудового коллектива и профсоюза, разработанного ими коллективного договора, в который можно внести положение о предоставлении указанных отпусков только с оплатой, оговорить размер сохраняемой заработной платы при временной приостановке работ или временного уменьшения их объема.

В ст. 181 ТК законодатель закрепил также положение, что за прогул без уважительных причин наниматель вправе уменьшить работнику трудовой отпуск на количество дней прогулов, но при этом продолжительность трудового отпуска не может быть меньше 21 календарного дня.

Новым в ТК является также и то, что законодательно закреплено положение (ст. 174 ТК), что по договоренности между работником и нанимателем трудовой отпуск может быть разделен на части. При этом одна из частей должна быть не менее 14 дней. К примеру, работник может взять половину отпуска в мае для посадки дачного участка, а вторую часть — в сентябре-октябре для уборки урожая.

(Продолжение следует)

**Адам САВКО, ведущий государственный инспектор Слонимской межрайонной инспекции труда**

